Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 2 (56) Аўторак, 20-га Студня 1925 г. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## Настаўніцкія курсы будуць у Вільні і ў Кракаве.

У сераду 14 гэтага студня п. Куратар Віленскага Школьнага Вокругу прыняў сябра Нагляднае Рады Беларускага Таварыства „Прасьвета“ грам. В. Шышкова, які ад п. Куратара даведаўся, што на конфэрэнцыі ў Варшаве паміж Віленскім Куратарам, міністрам С. Тугутам і кіраўнікам міністэрства Прасьветы п. Завідзкім вырашана, што курсы для настаўнікаў-беларусаў маюць быць адчынены ў магчыма найхутчэйшым часе адны ў Вільні на 40 слухачоў, а другія ў Кракаве таксама на 40 чалавек. Курсы працягнуцца найдалей да месяца кастрычніка сёлетняга году з тым, каб праслухаўшыя курсы настаўнікі маглі прыступіць да школьнае працы ўжо з будучага школьнага году. Да таго часу, пакуль ня будзе знойдзена памешканьне пад курсы ў Кракаве, пачнуцца яны часова ў Быдгошчы.

## Тугі пачатак.

Як ужо выясьнілася, справа рэалізацыі школьнага закону аб роднай мове пачынаецца ў нас так туга і вузка, што прыходзіцца лішні раз зьдзівіцца.

Курсы для беларускага настаўніцтва чамусьці адбывацца маюць ў Вільні і ў... Быдгошчы з перанясеньнем іх з гэтага пункту у Кракаў, як толькі там знойдзецца адпаведнае памешканьне.

Як віленскія, так і кракаўскія курсы разьлічаны кожныя ўсяго толькі на 40 чалавек.

Ці-ж наш школьны голад, набраўшы вельмі вострае формы, можа быць задаволены адчыненьнем з будучага школьнага году ўсімі разам 80 настаўнікамі, якія зьяўляюцца кропляю ў народным моры, maximum 80 школаў?

Мы пэўны, што само жыцьцё ў самай недалёкай будучыні пакажа ўвесь яўны недахват гэткае пастаноўкі справы. Вялікі лік беларускага настаўніцтва й далей застанецца бяз школьнае працы, альбо будзе працаваць у незайздросных варунках па прыватных школах, якія зруйнованаму войнамі беларускаму насяленьню вельмі трудна ўтрымліваць сваім коштам пры няўхільным цяжары дзяржаўных падаткаў і тугой адбудове зломанае свае гаспадаркі.

Справа народнае прасьветы зьяўляецца гэткім важным момэнтам у дзяржаўным жыцьці, што на яе нельга шкадаваць патрэбнае матар'яльнае натугі. І хіба ня бракам адпаведных крэдытаў тлумачыцца проект адчыненьня курсаў для нашага настаўніцтва ў гэткім вузкім разьмеры. У кожным выпадку, невядома чым гэта тлумачыцца. Нельга зразумець ніяк, нашто спатрэбілася разьбіваць настаўніцтва на дзьве групы, чаму ўсе 80 курсантаў не маглі зьмясьціцца ў аднэй Вільні?

„Ня бачыўшы новага і ў латаным рад“ — кажа народная прыказка. І нашае, скрыўджанае віхрамі гісторыі, настаўніцтва мусіць памірыцца з тэю першаю ластаўкаю, якая нясе з сабою вясну ў яго жыцьці. Практыка пакажа, што абмежавацца мізэрнымі пропускамі праз курсы гэтак малечкіх групаў настаўніцтва, як 40 асоб, немагчыма і на гэтым справа не застыне. Будучына мусіць асудзіць гэткі тугі пачатак у справе нашае школы, які робяць польскія школьныя ўлады і шырэйшы падход да рэалізацыі языковага школьнага закону сам сабою стане на парадку дня.

Будаваньне роднае школы справа ня вельмі лёгкая, аднак-жа, пачынаючыся з малога, яна арганічна будзе разрастацца, раз толькі рэальнае прызнаньне патрэбы яе істнаваньня зробіцца фактам.

Мы спадзяваліся на большы размах падходу школьных уладаў да рэалізацыі законных жаданьняў роднае школы, жывых сярод нашага народу, бо цьвёрда верым, што ўсякая „кустарнасьць“ у гэтай справе ніякага больш-менш шырэйшага ўражаньня сярод нашага беларускага насяленьня ня зробіць. Якая-нібудзь адна сотня беларускіх школ на тры мільёны беларускага насяленьня ў Польшчы, пакуль што, мала што новае дасьць адчуць. А момэнт вымагае таго, каб беларус пераканаўся на практыцы, што яго нацыянальныя інтарэсы школьная ўлада разумее ў самай шырокай меры.

## Палітычны агляд.

На сёлетні 1925 год выпала задача, як мы ўжо паведамлялі ў новагоднім аглядзе, ўрэгуляваньня, галоўным чынам, эканамічнае проблемы ў Эўропе, да якой апошняя не магла прыступіць раней, чымся ня былі ўрэгулёваны палітычныя адносіны паміж Нямеччынай і саюзьнікамі. У першыя дні студня месяца пачалася ў Парыжы конфэрэнцыя міністраў фінансаў Англіі, Францыі, Італіі, Бэльгіі, Японскага пасла і прадстаўніка Амэрыкі па пытаньню аб удзеле названых вышэй і некаторых іншых дзяржаваў у падзяленьні міжы сабою нямецкіх плацяжоў. Раней мелі на ўвазе, што на гэтай конфэрэнцыі будзе закранута таксама й пытаньне аб міжсаюзьніцкіх ваенных даўгох. Але з прычыны вялікае складанасьці і сур'ёзнасьці яно адложана да другога разу. А што датычыць падзелу саюзьнікамі паміж сабою нямецкае контрыбуцыі, дык гэтае пытаньне, пры яго разгляданьні, не спаткалася з вялікімі труднасьцямі і па ўсіх пунктах дасягнена поўнае паразуменьне.

На гэтай конфэрэнцыі разглядаліся такія пытаньні: перш за ўсё трэ' было падзяліць паміж усімі саюзьнікамі, падпісаўшымі вэрсальскі мір, тую суму грошай, якую адтрымала Францыя і Бэльгія шляхам эксплёатацыі Рурскага басэйну пасьля яго окупацыі. Сума агульнага даходу дасягае 1.185.900.000 залатых марак. З гэтае сумы трэба вылічыць расходы на ўтрыманьне окупацыі, якія даходзяць да 183 міл. 600 тыс. залатых марак. Спачатку Англія была проці вылічэньня з агульнае сумы расходаў па ўтрыманьню окупацыі. Але ў рэзультаце прыйшлі да паразуменьня на аснове францускае прапазыцыі. Той, які застаўся па вылічэньні расходаў па окупацыю, **адзін мільярд залатых марак** будзе падзелены паміж усімі зацікаўленымі ў нямецкіх рэпарацыях дзяржавамі, згодна з устаноўленым паразуменьнем.

Другім пунктам было пытаньне аб выплаце ў першую чаргу Бэльгіі 2-х мільярдаў залатых марак з рэпарацыйных сумаў Нямеччыны, як найболей пацярпеўшай падчас мінулае вайны. Бэльгія ўжо адтрымала **паўтара мільярда залатых марак.** З таго, які застаўся, паўмільярда марак права пяршынства прызнана Бэльгіі толькі на суму 120 мільёнаў зал. марак. Пры чым сума гэта будзе пакрыта гэткім чынам, што Бэльгія ў працягу 2-х гадоў будзе адтрымліваць па $8\%$ ад платаў, якія выцякаюць з пляну Доўса. Выклікала вялікую спрэчку пытаньне аб тым, ці трэба пакінуць за Бэльгіяю права на адтрыманьне і ў далейшым $8\%$ з агульнае сумы нямецкіх платаў, устаноўленых дагаворам у Спа 17 ліпня 1920 году. Паводлуг гэтага самага дагавору, Англія адтрымлівае з нямецкіх рэпарацыяў $22\%$, Францыя $52\%$, Італія $10\%$ і г. д. Англія трэбавала панізіць бэльгійскую долю да $3\%$. Асабліва дамагаліся паніжэньня бэльгійскага удзелу Італія, Румынія, Югаславія і Грэцыя, якія не адтрымліваюць акуратна таго, што ім належыць, з Вэнгрыі, Баўгарыі і Аўстрыі. Югаславія адтрымлівае $5\%$ з агульнае сумы, а Румынія, Партугалія і Грэцыя па $0{,}75\%$. Сама Бэльгія паднялася панізіць процэнт свайго удзелу да 6. Па гэтым пытаньні вельмі трудна было прыйсьці да аканчальнага паразуменьня, галоўным чынам, дзеля таго, што са зьменаю процэнтовага ўдзелу ў далейшых нямецкіх рэпарацыях Бэльгіі прыходзіцца зьмяніць адпаведным чынам процэнтныя суадносіны ўсіх іншых дзяржаваў. У рэзультаце ўсё-ж такі гэтае пытаньне вырашана ў тым сэнсе, што далейшы удзел Бэльгіі ў рэпарацыях абніжаны да $4\%$, а другія $4\%$ адтрымлівае Амэрыка. Гэткім чынам, процэнты ўсіх іншых дзяржаваў засталіся ненарушанымі. Далейшым пунктам праграмы конфэрэнцыі быў падзел аднаго мільярда зал. марак, выплачаных Нямеччынай у мінулым годзе, галоўным чынам, натураю, па пляну Доўса. Тутака труднасьць была ў тым, што плян Доўса не прадбачвае ня-

кіх плацяжоў, за выняткам тых, якія прыпадаюць у лік рэпарацыі, тымчасам, як Францыя, Бэльгія і навет Амэрыка вымагаюць звароту расходаў на окупацыю. Францыя аблічвае свае расходы ў 460 мільёнаў франкаў, Бэльгія—102 міл. фр. і Англія — 2 міл. фунтаў штэрлінгаў. Усё гэта разам складае 160 мільёнаў залатых марак. Апрача таго, Нямеччына павінна пакрыць расходы на ўтрыманьне казармаў, памешканьняў для афіцэроў, інстытуцыяў і інш. ў разьмеры 120 мільён. залатых марак. Да сумы 280 міл. зал. мар. (160+120) трэба дадаць яшчэ 92 міл. процантаў з 800 мільённае пазыкі па пляну Доўса. Гэткім чынам, для падзелу застаецца 628 міл. зал. мар. Апрача таго, з гэтае сумы ў першую чаргу павінны быць пакрыты расходы на ўтрыманьне ўсялякіх кантрольных місіяў і інстытуцыяў згодна з плянам Доўса. І, нарэшце, Злучаныя Штаты трэбуюць выплаты ім 1,072 міл. зал. мар. як зварот коштаў окупацыі ды 2-х мільярдаў зал. марак, як зварот шкоды, нароблёнае вайною на моры. Англія катэгорычна выступіла проці гэтых трэбаваньняў на тэй аснове, што Злуч. Штаты не ратыфікавалі вэрсальскага трактату. Гэтым Амэрыка, як думае Англія, адмаўляецца ад сваіх правоў на удзел у нямецкіх рэпарацыях. Аднак-жа, з прычыны вялікае залежнасьці ад Амэрыкі ўсіх дзяржаваў у фінансавым сэнсе, Англіі прышлося уступіць і ангельскія дэлегаты прыйшлі да паразуменьня датычна прызнаньня Злучаным Штатам права на удзел у гадавых платах, якія выцякаюць з пляну Доўса, дзеля пакрыцьця 2-х мільярдаў і разлажыўшы кошт утрыманьня амэрыканскіх войскаў (1,072 мільёны зал. мар.) на 26 гадавых ратаў, пачынаючы са жніўня 1926-га году. Агульная сума нямецкага даўгу пераможцам вызначана ў 32 мільярды залатых марак.

З раней сказанага відаць, якою эканамічною, фізычнаю і духоўнаю моцаю павінна выдзяляцца Нямеччына, каб выплаціць гэткія вялізарныя пратэнсіі амаль ня ўсім дзяржавам і ў той-жа самы час істнаваць самой! Як мы бачылі ўжо з ранейшага агляду, Нямеччына ня толькі не сагнулася пад гэтым бярэмем, але знайшла сілу й магчымасьць адбудаваць унутраны гандаль, прамысловасьць, фінансы, гандлёвы флёт і чугуначны матар'ял і цяпер зьяўляецца самым небясьпечным конкурэнтам на сусьветным рынку. Гэтага яна дасягнула, ня гледзячы на тое, што яна страціла пасьля вайны самыя багатыя прамысловыя акругі, як Эльзас і Лётарынгія, адыйшоўшыя да Францыі, дзе ёсьць самыя багатыя ўва ўсёй Эўропе жалезныя капальні, часьць Верхн. Сілезіі, адыйшоўшай да Польшчы з найбагацейшымі руднікамі і капальнямі каменнага вугля ды Саарскі вокруг, які знаходзіцца пад кантролем Лігі Народаў. У 1913 г. немцы, маючы ўсе гэтыя вакругі ў сваім уладаньні, вывезьлі за граніцу 1.807.000 тоннаў жалеза (тонна = 61 пуду), пры чым па цэнах на 43% ніжэйшых, чымся на ўнутраным рынку. З прычыны ўтраты названых раёнаў нямецкая здабыча сырога жалеза зьменшылася на 43,8%, сталі—на 36,2%. пракатнага жалеза—на 33,8% і жалезнае руды на 79,5%. Адсюль зразумелы імкненьні Нямеччыны да заключэньня стальнога трэсту з Францыяй, якая ўладае самымі багатымі жалезнымі руднікамі ў Зах. Эўропе. Але ўсё такі, ня гледзячы на ўсе гэтыя страты, Нямеччына мае магчымасьць пакрыць усе ўнутраныя патрэбнасьці, плаціць ваенную контрыбуцыю і рабіць сур'ёзную конкурэнцыю на сусьветным рынку. Адсюль паўстае страх у суседзяў Нямеччыны перад яе будучаю эканамічнаю небясьпекаю. Калі яна цяпер спраўляецца са ўсімі даўгамі і чуе сябе ня горш за пераможцаў, якія перажываюць эканамічны крызыс у яшчэ больш вострай форме, як, напр. Англія, якая ўвесь час мае болей як 1200000 безработных, дык што-ж будзе тады, калі Нямеччына выплаціць сваю контрыбуцыю і ня будзе мець ні загранічных ні ўнутраных даўгоў. А за гэты час нямецкая прамысловасьць перайдзе да масовае і таннае продукцыі. І гэта (эканамічная) небясьпека Нямеччыны яшчэ болей грозная, чымся ваенная. Гэта-ж з-за гэтае небясьпекі й пачалася мінулая сусьветная вайна.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

▭ „Robotnik" піша, што пад старшынствам віцэ-прэм'ера п. Тугута адбылася конфэрэнцыя аб беларускім школьніцтве. На конфэрэнцыі былі: кіраўнік міністэрства прасьветы п. Завідзкі, дырэктар дэпартамэнту гэтага самага міністэрства п. Жлобіцкі і куратар віленскага школьнага вокругу п. Гонсіороўскі. Прыняты рад пастановаў, якія маюць мэтаю правядзеньне прынятых Соймам законаў у межах беларускага школьніцтва ўва ўсходніх ваяводзтвах.

▭ Адміністрацыйная Камісія Сойму у прысутнасьці Міністра Тугута прыняла прапазыцыі, якія датычаць усходніх ваяводзтваў. Пасьля дыскусіі, у якой бралі слова паслы Ярэміч і Зьвержынскі адбылося галасаваньне над пададзенымі рэзалюцыямі ў ліку 11. *Рэзалюцыя пас. Зьвержынскага (Z. L. N.) аб увядзеньні выняткавага стану была адкінена 17 галасамі проці 9.* З іншых важнейшых рэзалюцыяў прынята рэзалюцыя пас. Прагера (P.P.S.), заклікаючая Урад незабаўна прыступіць да выпаўненьня зямельных рэформаў у усходніх ваяводзтвах з мэтаю надзяленьня варштатамі земляробскае працы безьзямельнага і малазямельнага сяленьства гэтых ваяводзтваў бяз розьніцы нацыянальнасьці. Прынята таксама рэзалюцыя пасла Касьцялкоўскага (Вызваленьне), заклікаючая Урад да адкліканьня гэнэралаў ваяводаў. Адкінена рэзалюцыя пас. Вендзягольскага (Z.P.S.L.) аб злажэньні Урадам проекту статуту Віленшчыны. Прынята рэзалюцыя пас. Керніка 18 галасамі проці 6, каб Урад падаў праграму направы дзяржаўнае адміністрацыі ўва ўсходніх ваяводзтвах, прыняў пад увагу рацыянальныя гаспадарчыя і культурныя патрэбы насяленьня, каб пры правядзеньні зямельнае рэформы прыняў пад увагу таксама патрэбы мясцовага насяленьня, нарэшце, каб прыступіў да выпаўненьня пляну, запэўняючага ўвядзеньне парадку і бясьпечнасьці, здушэньне бандытызму і актаў гвалту, а таксама абязшкоджаньня ўсялякае антыдзяржаўнае працы. Рэзалюцыі пас. Ярэміча (Белар. Клюб) і пас. Жыд. Кола па справе школьніцтва, ваеннага асадніцтва, а таксама фінансавае падмогі для жыдоўскага насяленьня былі адкінены.

▭ Корэспондэнт „Słowa" тэлеграфуе з Варшавы, што там 15. І міністар Тугут прыняў пасланоў Беларускага Клюбу Ярэміча і Тарашкевіча па справе правядзеньня ў жыцьцё языковых законаў на **крэсах.**

### За граніцай.

▭ **Гданскі** сэнат панізіў плату за польскія пісьмы з 20 фэнігаў на 15. Зроблена гэта з мэтаю конкурэнцыі. Саюз гданчапаў у Кэнігсбэргу выслаў нямецкаму канцлеру тэлеграму, якая заклікае нямецкі народ і Нямеччыну, каб не запаміналі аб Гданску, асабліва з прычыны апошніх дзеяньняў Польшчы.—Лёс Гданску, — кажа тэлеграма, — зьяўляецца лёсам Нямеччыны. Конфлікт паміж Польшчаю і Гданскам даведзены польскім урадам да ведама Лігі Народаў.

▭ У мінулы чацьвер неофіцыяльна абвешчаны склад новага **нямецкага** ўраду, сфармованага Лютэрам. Дэмакратычная фракцыя рэйхстагу аднагалосна прыняла рэзалюцыю, якою адабраецца выканаўчы камітэт фракцыі, які адмовіўся ад удзелу ў урадзе. У рэзалюцыі сказана, што дэмакратычная партыя пакіне за сабою вольную пазыцыю ў адносінах да новага кабінэту.

▭ З **Масквы** ў Парыжы адтрыманы весткі, што Зіноўеў у адной прамове адкрыта выступіў за ўзмацненьне камуністычнае пропаганды проці мілітарызму ў **Францыі**. Францускія газэты пішуць, што ў зьвязку з гэтым Эрыё даручыў паслу ў Маскве Эрбэту самым катэгорычным чынам заявіць радаваму ураду, што прыязныя адносіны паміж Францыяй і С. С. Р. Р. зробяцца немагчымымі, калі будуць паўтарацца падобныя выступленьні бальшавіцкіх дзеячоў.

# ЧАРАЎНІК.

*(Гляд. № 1 (55) „Грам. Голасу“).*

Ноч. Дажджыць паціху... Абляглося неба хмарамі... Сьпіць увесь Полацак, апрача адной хаты, дзе гэтак позна, (гадзіна трэцяя раніцы) сьвеціцца лямпа-смаркатка, міргаючы праз вакно на абмокшыя кусты вішняку ды маліньніку. Але і тут сьпяць.

Пані Бязьлепчыха, выцягнуўшы рукі і ногі ад душнаты, нешта нядобрае сьніць... вусны рухаюцца, быццам хочуць гаманіць. Бровы ходзяць над вачмі, як-бы гневаючыся і дзівячыся, чаму гэта нельга падняць павекі; пры ёй, зматаўшыся ў клубок, пакорны і ціхі характарам, рады што дачакаўся адпачынку, ляжыць стары, лысы але поўны Бязьлепка.

Лямпа-смаркатка разагналася, міргае часьцей і часьцей, пушчаючы шмат копаці - сажы на хату; гэтая сажа ніткамі ды платкамі ляціць, круціцца пад столью, паволі спушчаецца, як сьнег узімку, на гарачыя, потныя целы сьпячых, сунецца праз нос да лёгкіх і затыкае дыханьне...

Ходзяць бровы злосна над сьпячымі вачыма, — кратаюцца, хочучы протэставаць, вусны...

А платкі сажы-копаці паціху перарабляюць полацкіх беларусаў на нэграў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раптам усхапляецца Бязьлепчыха і крычыць: Ратунку! Вочы паказеліла — бяз ніякае мысьлі. Спужала мужа — і той адразу зо-сну кінуўся праз дзьверы вон з хаты,—яна за ім, задыхаючыся:

— Ратунку, людзі! Ра...!

У адным толькі порці, абліваны дажджом, пабеглі бягом да Будзьчыхі.

Спужалася тая, яшчэ не старая, жанчына, разбуджаная крыкам; гледзячы соннымі вачыма праз вакно пыталася трывожна:

— Што сталася? Чаго крычыцё?

— Ах, пусьцеце, імосьцінька! — прасілі Бязьлепкавы.

Скрыпнулі засаўкі, адчыніліся дзьверы.

— Дзіва, чаго гэтак? — пыталася Будзьчыха.

— Ах, надай Божа нікому!

Гэта прад выездам ён пагразіў што чарцей напусьціць!...

— Хто такі?

— Ды Марцін, наш кватарант... Дык вось і напусьціў!.. Самых чарцей... цьма!.. — задыхаючыся казала Бязьлепчыха, — ён здалёку паказвае рукой на наш будынак... Душэце, кажа, яе!

— Ай, Божа, вось дзіва! *проша* ў хату, а то дождж ідзець...

Бязьлепкавы ўвайшлі ў хату, дрыжачы ад страху, і тулячыся адно да аднаго ад стыду; як Будзьчыха запаліла лямпу, падыйшлі да стала і селі.

— Ай, ай! якія вы страшныя! — дзівілася Будзьчыха гледзячы на іх... — Ці ня комін вамі хто чысьціў? Ай, ай! і твар і порце!

Пазіралі Бязьлепкавы адна на адно і дзівіліся, як гэта сталася... Будзьчыха зразумела ўжо ў чым рэч: — Лямпа мусіць капціла!..

Схапянуўся Бязьлепка:

— Праўда, мы не загасілі... пажар можа быць!

Хутка абое з Будзьчыхай пабеглі і што-ж убачылі? Лямпа - смаркатка абярнутай на падлозе ляжыць і копціць аж чорна ў хаце... Ужо запалілася падлога каля лямпы...

Кінуліся тады ў хату абое, згасілі лямпу. Пласты сажы абляпілі іх, мокрых ад дажджу, — сьпірала — выбеглі з хаты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ня чэрці, а самі вы тут вінаваты! — казала Будзьчыха, ідучы наперадзе Бязьлепкі да свае хаты. — Сажа, маленькі пакоік, душната пацягнулі за сабой страхі — ў сьне, дык...

— Жонка кажа, што Марцін меў «чорныя

# АБВЕСТКА.

**Асобы, скончыўшыя Беларускія Гімназіі, якія жадаюць трымаць матуральны экзамен дзеля паступленьня ў вышэйшыя навуковыя заклады Польшчы, павінны зарэестравацца ў Т-ве „Прасьвета“ (Wilno, ul. Ludwisarska, 4).**

*Прэзыдыум Цэнтр. Рады Т-ва „Прасьвета“.*

Паводлуг вестак з **Літвы**, ковенскі магістрат даў літоўскаму гандлёваму прадстаўніку ў **Вашынгтоне** поўнамоцтвы рабіць захады дзеля таго, каб адтрымаць у **Амэрыцы** пазыку ў 2 мільёны даляраў дзеля збудаваньня каналізацыі ў **Коўне**.

Пасьля прыняцьця **Літоўскім** соймам закону аб абавязковым адпачынку ў нядзельныя дні, ковенскія рабіны апублікавалі адозву, заклікаючую жыдоў да забастоўкі на знак протэсту. Па гэтай прычыне ковенскія рабіны былі выкліканы да сьледчага судзьдзі. Пасьля справа была перадана ў ваенны суд. Рабіны абвінавачваюцца ў закліканьні насяленьня да няслуханьня законаў.

З **Прагі (Чэхаславакія)** тэлеграфуюць, што **баўгарскі** прэм'ер-міністар Цанкоў запрасіў у **Софію** врангелеўскага гэнэрала Шкуро дзеля перагавораў аб рэарганізацыі арміі Врангеля.

З **Парыжа** тэлеграфуюць за 15. I, што ў зьвязку з інтэрпэляцыяй у парлямэнце па пытаньню аб забастоўцы ў Дуарлене дайшло да спатычкі паміж правымі і левымі дэпутатамі, дзеля чаго прышлося зачыніць паседжаньне.

„Petit Par.“ паведамляе з **Вашынгтону**, што прэзыдэнт **Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў** Куліджа замерваецца назначыць камісію дзеля абгавору пытаньня аб магчымым прызнаньні аднаўленьня расейска-амэрыканскіх адносін на гэткіх варунках: 1) саветы павінны прызнаць царскія даўгі, 2) павінны задаволіць прэтэнсіі амэрыканскіх грамадзян і 3) катэгорычна адмовіцца ад пропаганды ў Злучаных Штатах.

Згодна з паведамленьнем з **Каіру, эгіпэцкі** ўрад адмовіўся рабіць выбары паміж 20 студня і 2 лют. з прычыны немагчымасьці злажыць сьпіскі выбаршчыкаў.

„Journal“ паведамляе з **Барцэлёны**, што там арыштованы быўшы рэдактар аднае з камуністычных газэтаў, Морев, які прыбыў з С. С. Р. Р. з інструкцыяй арганізаваць камуністычны рух у **Гішпаніі**.

З **Белграду** паведамляюць, што пракуратура паведаміла суд у Загрэбе аб зьмесьце мэмарандуму Радзіча да Саветаў, напісанага парасейску. З гэтага мэмарандуму відаць, што Радзіч абавязаўся справакаваць выбух рэвалюцыі альбо шляхам забойства **югаслявянскага** караля, альбо ўвядзеньнем ваеннае дыктатуры ці перамогай на выборах харвацкіх сялянска-рэспубліканскіх партыяў. 15 студня па загаду судовых уладаў арыштованы сэкрэтар Скупшчыны (парлямэнту) Раціціч.

# Агляд прэсы.

„Robotnik“ піша на тэму ўрадовай харчовай палітыкі між інш. гэтак:

Наша харчовая (aprowizacyjna) палітыка адзначаецца дзіўным недахватам прадбачаньня і пасьледавальнасьці, за што трэ' будзе цяжка пакутаваць.

У першую чаргу йдзе аб збажовую палітыку.

Увясну 1924 г. ужо было ведама, што палявыя зборы ў гэтым годзе будуць малыя і гэты год будзе годам неўраджайным. Гэта ясна відаць было з апавешчаньняў Галоўнага Статыстычнага Праўленьня. Аднак гаспадарчая палітыка Дзяржавы прайшла міма гэтага факту, а Урад ўсё шырэй адчыняў вароты для вывазу збожжа за межы краю. Улетку: ў ліпні і ў жніўні агульна было ведама, што мы напярэдадні катастрофы неўраджаю. Урад аднак ня мог рашыцца, каб спыніць вываз праз падняцьце вывазное аплаты.

І толькі ўвосені Урад рашыўся ўвесьці новыя вывазныя стаўкі.

На вачох Ураду, пры яго абсолютнай бязьдзеяльнасьці, паднялася цана збожжа больш за 100 проц. Урад не паклапаціўся навет аб тым, каб купіць большы запас таннага збожжа дзеля свайго распараджэньня, дзеля таго, што як ведама, грошы вызначаныя на гэту мэту, зрасходаваны, галоўным чынам, у жніўні, гэта значыць у часе, калі масовая купля толькі ўскорыла-б і павялічыла-б ўзрост цаны.

Мы думаем, што дзеля таго, што Урад у гэтым напрамку нічога ня робіць, гэтай справай павінна заняцца наша зарганізованае грамадзянства, а ў першую чаргу работніцкая кляса і яе соймавае прадстаўніцтва.

Апошняе паседжаньне соймавай адміністрацыйнай камісіі ў справе Усходніх Ваяводзтваў ізноў выклікала на парадак дня пытаньне аб выхадзе з утварыўшагася зачарованага кола. „Echo Warsz.“ у гэтай справе між інш. піша:

Усходнія Зямлі гэта вялізныя абшары, якімі адміністраваць вельмі трудна, дык вось да працы на Крэсах трэба паклікаць людзей здольных і працавітых, а якія, баронячы інтарэсы Краю ўмелі-б аднолькава пагадзіць свае паступкі з мясцовымі варункамі, а таксама вымогамі і традыцыямі тутэйшага насяленьня, якія трэба шанаваць.

На ўрадовых пасадах сядзіць шмат чыноўнікаў не-Палякоў або Палякоў сумліўнага польскага паходжаньня, шмат якія раней адпіраліся ад свайго польскага паходжаньня, пасьля былі перакананымі украінцамі, а цяпер зрабіліся палякамі.

Гэтага роду чыноўніцкі элемэнт трэ' было-б як га выкінуць з крэсовых урадаў, пераносячы іх у глыбіню краю.

Крэсам патрэбны людзі працы і ідэі.

Нажаль гэтыя людзі „працы і ідэі“, якія зьяўляюцца на крэсы ў ролі ўрадоўцаў і выпіраюць „няпэўны“ мясцовы элемэнт часта зьяўляюцца горшымі элемэнтамі грамадзянства і канчаюць іншы раз кар'еру вельмі сумна.

# ПА СЬВЕЦЕ.

**Новае адкрыцьце.**

Парыская газэта „Matin“ піша, што нейкі малады інжынер, які працаваў на тэлеграфе, зрабіў новае адкрыцьце, дзякуючы якому радыё-тэлеграмы, якія адтрымоўваюцца, можна будзе бачыць і гэткім чынам адразу друкаваць.

Як ведама, радыё-тэлеграмы дагэтуль можна было толькі чуць.

**Лёс быўшага прем'ер міністра.**

Быўшы вэнгерскі старшыня міністраў, які быў таксама, хаця й нядоўгі час, прэзыдэнтам вэнгерскае рэспублікі, граф Міхал Каролы, лічыўся адным з найбагатшых магнатаў у Вэнгрыі. Маемасьць яго цяпер конфіскована па пастанове вышэйшага вэнгерскага суда. Было ў графа Каролы 15.000 іохаў зямлі (іох=1.250 квадратным сажням, што складае крыху больш як поўдзесяціны), 25.000 іохаў лесу, курорт і замак Парат, вялізны палац з паркам у цэнтральнай часьці вэнгерскае сталіцы Будапэшту, шкляная фабрыка і яшчэ вельмі шмат розных іншых замкаў, дамоў, рэчаў мастацтва і г. д. Да вайны яго маемасьць ацэньвалася ў 10 мільёнаў даляраў. Каролы, які падчас бальшавіцкага рэжыму ў Вэнгрыі павінен быў уцякаць за граніцу і з таго часу змушаны жыць на эміграцыі, пражыў некаторы час у Чэхаславакіі, затым у Італіі пасьля ў Югаславіі. Цяпер граф Каролы жыве ў адным з прыгарадаў Лёндану і піша другую часьць сваіх успамінаў. Яго жонка апошнім часам мела лекцыю ў Злучаных Амэрыканскіх Штатах аб жыцьці ў Вэнгрыі. Каролы з сям'ёю, не дастаючы ўжо даўно ніякіх даходаў ад свае маемасьці, перажываў апошнімі гадамі вострае гора. Графіня Каролы, падчарыца графа Андрашы, якая раней лічылася самаю прыгожаю вэнгерскаю арыстакраткаю, па выгнаньні змушана была сама мыць порце ня толькі свайму малодшаму дзіцяці, якому цяпер 5 гадоў, але і ўсёй сям'і. Каролы пасьля рэвалюцыі адмовіўся ад свае вялізарнае маемасьці на карысьць безьзямельных сялян Вэнгрыі. А цяпер, як пастанавіў суд, часьць яго маемасьці пяройдзе ў рукі яго найбліжэйшых сваякоў, якія кінулі пасьля рэвалюцыі ўсякія з ім зносіны, а большая часьць будзе раздана дзяржаваю розным патрыятычным і хрысьціянскім арганізацыям, студэнцкім саюзам і пэнсіённым касам, зьбяднеўшым з прычыны ўпадку грошай падчас інфляцыі.

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

кніжкі» і чараваў адвечаркамі праз сьцяну шэпчучы... — апраўдаваўся Бязьлепка.

— Ат, ня веру! Марцін чалавек набожны, часта ў касьцёле бачу!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

У чужой хаце Бязьлепчыха мылася; ўгледзіўшы мужа яна казала:

— Казюк! як толькі разьвіднее бяжы ты па ксяндза... Хай асьвенціць, іначай—не пайду туды жыць!

— Што-ж, схаджу! — адказаў Бязьлепка і сеў. — Чуць пажар ня быў... Абярнулася-б хата ў попел!

— Ды на нашу-ж галаву ўсё няшчасьце: Марцін, чэрці, пажар!!! Уцякайма зусім адгэтуль! — не магла супакоіцца Бязьлепчыха; да раньня не маглі спаць самі і адабралі сон ад Будзьчыхі.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Па сьнеданьні Бязьлепка прывёз ксяндза — на «высьвянчэньне» кватэры.

Уваходзячы да будынку, ксёндз пытаўся ў Бязьлепчыхі ці моліцца яна, кладучыся спаць, ці была ў Вялікоднай споведзі і, наагул, ці набожная.

Тая хваліла сама сябе, як магла. Ксёндз адмовіў малітвы, пакрапіў хату вадой, затым пытаўся аб самым Марціне і дзівіўся, што той, такі набожны займаецца «чарамі» (ксёндз асабіста быў знаёмы з Марцінам). Неўзабаве ад'ехаў ён. Бязьлепкавы баяліся адразу памясьціцца ў хаце—гэтак былі з ночы настрашаны.

Каб спраўдзіць ці бясьпечна ўжо спаць у хаце, папрасілі старога Мацулевіча, што ўсюды пяяў на хаўтурох, каб пабыў ноч сумесна з паліцэйскім Высоцкім,—тыя згадзіліся, і вось увечары, Мацулевіч, маленькі, маршчыністы з стрыжанымі ўніз вісячымі вусамі, з вялізным ружанцам на грудзях і кніжкай-малітвенікам у руцэ сядзеў за сталом, напроці высокага поўнага і бруxатага з бычачым паглядам паліцэйскага «ў мундзеры» і з шабляй; іх частаваў яешняй і гарэлкай сам Бязьлепка.

Мацулевіч расказваў шмат здарэньняў «з таго сьвету», хваліўся, што на «нячыстую сілу» мае раду.

Паліцэйскі толькі моцна сьціскаў шаблю левай рукой, а правай задаваў працы зубам аж вушы хадуром хадзілі, ды твар непадобным быў да твару, ўсе мускулы парушаліся і зьмяняліся ў напружаннай працы губаў.

Пры збліжэньні поўначы Бязьлепка пaціху выйшаў да Будзьчыхі і там астаўся з жонкай спачываць.

Паліцэйскі неўзабаве хроп, лежачы на зэдліку дагары вачыма, Мацулевіч толькі маліўся, перабіраючы каралі ружанца, ды паддаючы сабе адвагі знакам крыжа... Ен верыў у «зданкі», старога парадку быў чалавек.

Ноч прайшла ціха. Ніхто нікому нічога ніякага.

Аднак-жа Бязлепчыха ня верыла у бясьпечнасьць хаты, баялася «акропне», як казала ўсім, Марціна... Яго, нат у касьцёле на другі дзень спаткаўшы, спужалася... Ей здалося, што пчолы пачалі ад яго прыказу да яе чапіцца...

Адганяла рукамі, але каб не набрацца стыду ад парахвіянаў, выйшла з касьцёла і аб «пчолах» расказала Будзьчысе.

Будзьчыха была разумнай і цвярозай жанчынай.

— Звар'яцела Бязьлепчыха! — казала яна пасьля сваёй сяброўцы, — то на яе чэрці, то на яе пчолы...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Вясной Бязьлепкавы прадалі хату і ўцяклі ад «нячыстае сілы» ў Віцебск, а «чараўнік»?... а нічога! Калі гутарка дзе пры ім была аб ёй, дык казаў, што «нячыстую сілу» яна павязла з сабою...

*А. В.*

КАНЕЦ.

### Настаўнікі,

якія жадаюць паступіць на курсы, каб адтрымаць поўную кваліфікацыю, павінны прыслаць у Цэнтральную Раду Беларускага Таварыства „Прасьвета“ адказы на гэткія пытаньні:

1. Прозьвішча
2. Імя
3. Імёны бацькоў
4. Век
5. Дзе радзіўся?
6. Рэлігія
7. Адукацыя
8. Настаўніцкі стаж
9. Чым цяпер займаецца?
10. Сямейны стан.
11. Адрэс.

### Паказаньні Садуля.

Як паведамляюць з Парыжа, былы капітан французскае службы Садуль, перайшоўшы пасьля кастрычніцкага перавароту ў Расеі на бальшавіцкую службу, зрабіў у Орлеанскім ваенным судзе цікавую заяву, невядомую дасюль у гісторыі бальшавіцкай рэвалюцыі.

— У Францыі ўсё яшчэ невядома, — сказаў Садуль, — што Ленін і Троцкі пры устанаўленьні радавага ўраду бесьперастанку прасілі аб ваенным падтрыманьні з боку Францыі, каб аднавіць вайну з Нямеччынаю. Гэтак, напр., расейскія гэнэралы, былыя на міравых перагаворах у Берасьці, былі назначаны гэнэралам францускае місіі. Ленін чакаў перарваньня міравых перагавораў і меркаваў, што ён будзе змушаны аднавіць вайну з Нямеччынай. Дзеля гэтага ён даручыў мне зрабіць у францускай ваеннай місіі запрос, ці згодна яна стаць на чале расейскае арміі. Пасол Нулянс адказаў нэгатыўна і мір у Берасьці быў падпісаны. Галоўную адпавядальнасьць за берасьцейскі мір і гібель сотняў тысячаў салдатаў нясець Клемансо.

Прэзэс суда прабаваў перабіць Садуля, але той казаў далей:

— У Францыі таксама ня ведаюць, што француская ваенная місія пасьля падпісаньня берасьцейскага міравога дагавору, калі пасол Нулянс ужо выехаў, працавала супольна з расейскім гэнэральным штабам, узяўшым у свае рукі кіраўніцтва чырвонаю арміяй. Калі немцы пачалі наступ, дык Нулянс ізноў зьявіўся і нацкаваў 50.000 чэхаславакаў і белагвардзейцаў. Пасьля ўпадку гэтых плянаў Нулянс аканчальна ўцёк. Цераз яго тактыку жыцьцё францускіх афіцэраў апынулася ў небясьпецы. Я адзін выратаваў іх.

Садуль цьвярдзіў, што яму было забаронена вярнуцца ў Францыю дзеля таго, каб перашкодзіць выкрываньню праўды аб Нулянсе.

На заяве абароны Садуль зволнены з Орлеанскага вастрогу.



# У С.С.Р.Р.

### Безрабоціца ў Радавай Беларусі.

ПАТ перадае вестку з Петраграду аб тым, што ў Радавай Беларусі ўвесь час расьце безрабоціца. Лік безработных сяброў прафэсіянальных саюзаў з кастрычніка 1924 году павялічыўся на 9 проц. у параўнаньні з верасьнем. З мэтаю паменшыць лік безработных у мінулым квартале савецкія ўлады загадалі гэтак зван. „чыстку“. У рэзультаце гэтага лік зарэестраваных на біржах працы паменшыўся ў сярэднім на 50%. Напрыклад да чысткі ў Менску лічылася 8.500 безработных, а цяпер — 4.198, ў Віцебску з 12.000 пакінена 5.874. У Барысаве гэткім спосабам паменшапы лік безработных на 85 проц. Ведама, што фактычнае безрабоцьце ад гэтага ня зьнікла. Цяпер зарэестрована на біржах працы 15,000 безработных. Лік і размер дапамогаў пакінены бяз зьмены.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

**= У Таварыстве „Прасьвета“.** Прэзыдыум Беларускага Таварыства „Прасьвета“ адтрымаў згоду Беларускага Грамадзянскага Сабраньня на перадачу пад настаўніцкія курсы ўсяго памешканьня, занятага цяпер Грамадзянскім Сабраньнем у выпадку, калі яно будзе прызнана добрым дзеля гэтае мэты школьнымі ўладамі. У мінулую нядзелю 18-га гэтага студня памешканьне было агледжана камандзірованым дзеля гэтага вураднікам Віленскага Школьнага Куратарыюму. Зацікаўленасьць курсамі сярод беларускага настаўніцтва вялізарная. Штодзенна ў сэкрэтарыяце „Прасьветы“ бываюць дэлегаты ад настаўнікаў з глухіх провінцыяльных куткоў. З прычыны малога ліку стыпэндыятаў на курсах (ўсяго 40 чал.), Т-ва „Прасьвета“ зьвярнулася да Куратара Віленскага Школьнага вокругу з просьбай аб пазваленьні праслухаць курсы сваякоштным слухачом, якія таксама мелі-б права быць настаўнікамі беларускіх школаў, скончыўшы курсы. Куратар дае на гэта згоду пры варунку, калі для сваякоштных слухачоў ня прыдзецца тварыць асобны аддзел з увагі на іхні адукацыйны цэнз. З провінцыі паступаюць ужо паведамленьні аб арганізацыі мясцовых гурткоў „Прасьветы“.

**= Інтэрпэляцыя.** „Dz. Wil.“ піша: „Інспэктараты пачатковых школ на цэлым абшары Віленшчыны адтрымалі ад Міністэрства Прасьветы копіі інтэрпэляцыі да п. Прэзэса Міністраў за 4 мінулага сьнежня паслоў Беларускага Клюбу, падпісанае, паміж іншым, пасламі Ланцуцкім і Крулікоўскім па справе нібыто праследаваньня і зачыняньня беларускіх пачатковых школаў, з мэтаю выясьненьня фактычнага стану“.

**= Расходы на паліцыю.** Дэлегат Ураду ў Вільні падаў да ведама Магістрату, што на аснове загаду Міністэрства Унутраных Справаў кошт утрыманьня дзяржаўнай паліцыі ў Віленскім Ваяводзтве на 1925 год будзе 7.785.827 зл., з гэтага ліку грошай віленскі Магістрат павінен пакрыць 634.513 зл.

**= Алькоголізм сярод дзяцей.** Па ініцыятыве галоўнага доктара пачатковых школ гор. Вільні пры ўчасьці інспэктара школ праводзіцца анкета аб алькоголізьме сярод дзяцей. З ужо адтрыманых даных відаць, што бываюць часта выпадкі апаламленьня алькоголем сярод дзяцей 7—9 гадоў.

**= Вадохрышча.** Учора (6-га I па ст. стылю) адбыўся крэстны ход з Прачысьценскага Праваслаўнага Сабору на р. Вяльлю дзеля асьвячэньня вады.

**= Гарадзкая электрычная станцыя.** Як кожнаму добра ведама, ў апошнія часы часта здараецца, што электрычнасьць у Вільні гасьне зусім у неадпаведныя мамэнты. Кажуць, што адзін раз электрычнасьць гэтак пагасла ў бальніцы сьв. Якуба ў часе цяжкой апэрацыі і хворая ад уцёку крыві памёрла, пакуль бегалі купляць сьвечкі.

Гэтымі днямі, справа электрычнага сьвятла будзе ўжо ўрэшце ўрэгулёвана, дзеля таго, што будзе ўжо пушчаны ў ход новы, даўно тужліва чаканы, мотор „Diesla“.

Дзеля таго, што запатрабаваньне электрычнай энэргіі з кожным днём расьце, Магістрат пастанавіў унясьці ў бюд'жэт у рубрыку расходаў 400.000 зл. на новую турбіну, якая дасьць магчымасьць здаволіць патрэбу сьвятла для ўсіх жыхароў места.

**= Новыя аўтобусы.** Прыбылі ў Вільню новыя аўтобусы, якія аднак ня могуць здаволіць усіх віленцаў, дзеля таго, што заўсёды перапоўнены. Прыбывае яшчэ новы транспорт і будуць пушчаны самаходы на лініі Антокаль-Пагулянка.

Рух самаходаў, які аказвае гэткія ўслугі жыхаром места, мусіць на доўгія гады пахавае справу магістрацкага электрычнага трамваю, аб якім калісь шмат было гутаркі, мала дзела, а цяпер дык і гутаркі аб ім ня чутно.

**= Фальшывыя 20-златоўкі.** Польскі Банк падае да ведама апісаньне зьявіўшыхся ў абегу фальшывых 20-златовак. Яны надрукованы на болей тоўстай паперы. Вадзяны знак на правым медальёне зроблены жыравою фарбаю. Буракчовая, чырвоная і чорная фарбы выступаюць нявыразна. Патрэт Касьцюшкі адбіты ў левым медальёне ў фіялетавых тонах; літары тэксту надрукованы грязна-фіялетаваю фарбаю, замест шэра-бланкітнае. Цыфры расстаўлены няроўна. У рамках медальёнаў замазаны дробныя дэталі. Літара „z“ і лічба „20“ надрукованы грязна-фіялетаваю фарбаю замест шэра-бланкітнае.

# УСЯЧЫНА.

### Кат прапануе свае услугі.

У № 12 газэты „Robotnik“ за 13. I. 1925 знаходзім пад вышэйзначаным загалоўкам заметку гэткага зьместу: „Соймавая канцэлярыя адтрымала гэтымі днямі пісьменную прапазыцыю на пасаду ката. Зьмест прапазыцыі вось які:

„З газэты „Rzeczpospolita“ я даведаўся, што ў польскай дзяржаве ёсьць брак выканаўцы прыгавараў сьмерці, г. знач. ката, праз гэта функцыі за яго мусіць выпаўняць войска, чаму апошнім часам спрацівіўся п. міністар вайсковых справаў, дзеля таго, што функцыі, аб якой ідзе гутарка, не прадбачвае ваенны рэгулямін. Дзеля гэтага я (*імя і прозьвішча*) бышы вучань, а затым экзаменованы памоцнік (заступнік выканаўцы-ката) прыгавараў сьмерці „цераз павешаньне“ пры аўстра-вэнгерскіх судох, падаў на рукі п. міністра справядлівасьці ў Варшаве прашэньне з выказам жаданьня і згоды на абняцьце спомненае функцыі ў польскай дзяржаве на варунках, паданых у прылажэньні.

Гэтае паданьне адважваюся злажыць з просьбаю аб ласкавым пастаўленьні Высокаму Сойму публічнае прапазыцыі аб вынятку войска з выпаўняньня прыгавараў сьмерці над цывільнымі асобамі і адданьні выпаўняньня іх над тымі-ж асобамі прысяжнаму, экзаменованаму і спэцыяльнаму дзеля гэтага кату, які выпаўніць экзэкуцыю цераз павешаньне.

Дадаю, што ў выпадку прыняцьця майго прашэньня злажу прысягу, аддам свае асабістыя дакумэнты, якія сьцьвярджаюць маю „tożsamość“ і прыналежнасьць, а таксама зраблю эвэнтуальную пробу мае гэтак любае прафэсіі.

Зазначаю, што я, як такі, зьяўляюся кліканым цераз міністэрства справядлівасьці да аўстрыяцкай рэспублікі, аднак-жа хацеў-бы застацца ў Польшчы і той-жа служыць. Дн. 4. I. 1925. Подпіс.

У прылажэньні варункі, на аснове якіх згаджаюся прыняць і ахвотна выпаўняць выканаўчыя функцыі прыгавараў сьмерці ў ролі ката ў Рэспубліцы:

1) прозьвішча і імя маё павінна быць вядома аднаму толькі п. міністру справядлівасьці;

2) месячнае утрыманьне павінна раўняцца месячнай пэнсіі вурадніка 5-е катэгорыі;

3) білет вольнага праезду 2 кляс. да месца экзэкуцыі;

4) прызначаньне паліцэйскае асысты пры выконваньню прыгавараў сьмерці“.

Да чаго толькі не даходзіць недасканальная чалавечая натура!

### Паштовая скрынка.

Лабоўка. Пісьмо адтр., газ. выс. Кнігарня Маліноўскага. Пісьмо адтр., газэту і календары высыл.



Рэдактар-Выдавец Язэп Салавей

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.